Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. ЗміТрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 23 лютага 1999 г. №20 (551) Кошт свабодны

## Улады не хочуць плаціць кампенсацыі

**Паслы краінаў Еўрапейскага саюза пакінулі свае рэзідэнцыі на тэрыторыі комплекса «Дразды». Пра гэта нам паведамілі ў міністэрстве замежных справаў.**

Нагадаем, што, згодна з дамоўленасцю паміж Еўрасаюзам і беларускімі ўладамі, паслы краінаў ЕС павінны былі вызваліць рэзідэнцыі ў Драздах праз месяц пасля вяртання ў Мінск. Да 18 лютага яны вывезлі свае рэчы з рэзідэнцыяў і паведамілі пра гэта ў міністэрства замежных справаў. Пасля гэтага ранейшыя дамовы аб арэндзе памяшканняў у Драздах скасоўваюцца. Цяпер беларускія ўлады павінны неадкладна пачаць двухбаковыя перамовы наконт памеру і працэдуры выплатаў краінам ЕС, якім, згодна з дамоўленасцю, беларускі бок павінен кампенсаваць страту рэзідэнцыяў. Аднак прэзідэнт Лукашэнка нядаўна заявіў, што, маўляў, «вялікія дзяржавы не маюць права патрабаваць кампенсацыі» ад нашай краіны. Прэзідэнт не хоча плаціць і гэтым ён парушае ранейшае пагадненне з ЕС.

Як нам сказалі ў прэс-службе міністэрства замежных справаў, лёс рэзідэнцыі амерыканскага пасла ў Драздах пакуль не вырашаны. Беларуска-амерыканскія перамовы яшчэ не завяршыліся.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Правакацыйнае абвінавачванне

**На Гродзеншчыне пачалі выклікаць у пракуратуру членаў камісіяў, створаных у вобласці для правядзення прэзідэнцкіх выбараў.**

Старшыня Свіслацкай раённай камісіі Віктар Трышчановіч атрымаў ад пракурора В.Шэціка папярэджанне, што ўдзел у арганізацыі выбараў пагражае крымінальнай адказнасцю па артыкуле «захоп улады гвалтоўным чынам». Трышчановіч таксама атрымаў паперу з абвінавачваннем, што быццам бы ён 31 студзеня па беластоцкім тэлебачанні заклікаў беларускую дыяспару Польшчы таксама ўдзельнічаць у выбарах прэзідэнта ў Беларусі.

Віктар лічыць гэта правакацыяй, прычым зробленай вельмі прымітыўна. 21-24 студзеня ён знаходзіўся ў Бельску-Падляшскім на семінары, арганізаваным адукацыйным цэнтрам «Польшча–Беларусь». Інтэрв'ю журналістам з Беластока даў ягоны калега, а Віктар толькі стаяў побач. Прычым у інтэрв'ю ніякіх заклікаў не гучала, а было толькі сказана, што польскі досвед правядзення дэмакратычных рэформаў, асабліва ў галіне мясцовага самакіравання, можа быць вельмі карысным у Беларусі.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Папярэджанне газетам

Пракурор Магілёўскай вобласці Анатоль Дудкін даслаў папярэджанне чатыром мясцовым газетам «Дэ – факта», «Вячэрні Магілёў», «Магілёўская праўда» і «Тыднёвік Магілёўскі», якія *«пад уплывам некаторых палітычных сілаў распаўсюджваюць інфармацыю аб падрыхтоўцы да правядзення датэрміновых выбараў прэзідэнта»*. Па словах пракурора, удзел у гэтай акцыі можа абярнуцца адміністратыўнай і крымінальнай адказнасцю.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**




# Шыдлоўскага гвалтоўна амніставалі

З мінулай пятніцы ля варот мінскай турмы на вуліцы Кальварыйскай дзяжураць актывісты Маладога Фронту. Юнакі чакаюць свайго сябра Аляксея Шыдлоўскага, якога ўлады могуць вызваліць у любы момант. Магчыма, калі чытачы будуць трымаць у руках гэты нумар НАВІНАЎ, Шыдлоўскі ўжо будзе на волі, але на час падпісання газеты ў друк звестак пра вызваленне Аляксея яшчэ не было.


*На судовым працэсе (здымак з архіву)*

Нагадаем, што ў лютым мінулага года абласны суд пад старшынствам суддзі Уладзіміра Лаўрова даў Шыдлоўскаму паўтара года турмы, прызнаўшы яго вінаватым у злосным хуліганстве і нанясенні шкоды дзяржаўнай маёмасці шляхам напісання на будынках у горадзе Стоўбцы антыпрэзідэнцкіх лозунгаў. Да суда Шыдлоўскі ўжо правёў у ізалятарах шэсць месяцаў, такім чынам на волю ён павінен быў выйсці 25 лютага. Малады Фронт рыхтаваў на гэты дзень урачыстую сустрэчу свайму сябру і лідэру, аднак у планы маладых змагароў за незалежнасць умяшалася амністыя.

Яшчэ летам, калі ў турмах пачалі засядаць адмысловыя камісіі па падборы будучых амніставаных, Аляксей напісаў заяву на амніставанне, але адбору не прайшоў: камісія вырашыла, што вязень Шыдлоўскі не варты міласці з боку дзяржавы, бо «не стаў на шлях перавыхавання». Але на мінулым тыдні родныя Шыдлоўскага раптам даведаліся, што ён усе ж уключаны ў спісы амніставаных. Пры гэтым, калі дакладна Аляксей выйдзе на волю, прадстаўнікі ўлады не паведамляюць. «Як толькі падрыхтуем адпаведныя паперы», — казалі ў турэмнай адміністрацыі.

Актывісты Маладога Фронту, што дзяжураць побач з турмой, упэўненыя, што гэтай гвалтоўнай амністыяй Шыдлоўскага ўлада задумала сарваць урачыстую сустрэчу Шыдлоўскага — «каб менш было шуму на ўвесь свет пра палітвязняў у Беларусі». Яшчэ адзін цікавы момант — асоба, якую амніставалі, на працягу 10 гадоў больш не можа разлічваць на амністыю. А хто ведае, як далей складзецца лёс былога вязня...

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Вярхоўны Савет рыхтуе прэзідэнцкія выбары

**Апошняе паседжанне Вярхоўнага Савета, што адбылося ў суботу, сталася надзвычай кароткім — яно працягвалася трохі больш за паўгадзіны.**

Парадак дня складаўся з аднаго пытання: «Аб забеспячэнні мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Гэтыя выбары, як вядома, прызначаныя Вярхоўным Саветам на 16 траўня.

У сваім дакладзе старшыня ВС Сямён Шарэцкі паведаміў, што практычна ва ўсіх раёнах Беларусі (за выключэннем 3-х) ужо створаныя выбарчыя камісіі. *«Вярхоўны Савет дзейнічае ў поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй і з канстытуцыйнымі тэрмінамі чарговых прэзідэнцкіх выбараў»*, — падкрэсліў спікер.

Аніякіх пытанняў і дыскусіяў не было. Адпаведную пастанову дэпутаты прынялі аднагалосна.

Пастанову ВС Цэнтрвыбаркаму на чале з Віктарам Ганчаром і тэрытарыяльным выбарчым камісіям даручана афармляць спецыяльныя акты ў кожным выпадку, калі старшыні выканкамаў, мясцовых саветаў ці іншыя службовыя асобы будуць парушаць заканадаўства па выбарах прэзідэнта. Гэта зроблена з мэтаю *«індывідуалізацыі адказнасці за правапарушэнні»*.

Калі паседжанне скончылася і дэпутаты пачалі разыходзіцца, у будынку раптам з'явіліся 2 афіцэры міліцыі, адзін з якіх быў узброены кінакамерай. Сваёй прыладаю, аднак, ён так і не пакарыстаўся, і наогул на кантакт з дэпутатамі міліцыянты не пайшлі; такім чынам, мэту іхняга візіту вызначыць цяжка.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Справа Мірона жыве

**У ноч з 19 на 20 лютага невядомыя вывесілі бел-чырвона-белыя сцягі ў Лідзе, Барысаве, Бабруйску, а таксама ў некалькіх мікраёнах Мінска — Уруччы, Шабанах, Заводскім і Фрунзенскім раёнах.**

З фасаду будынка адміністрацыі аднаго з раёнаў сталіцы быў зняты дзяржаўны сцяг. У гэтую ж ноч па горадзе раскідваліся і расклейваліся лістоўкі пад лозунгамі «Уратуем Беларусь ад лукашызму» і «Нацыя, гонар, незалежнасць».

*БелаПАН*

# Суддзя абвінавачвае судовую сістэму

*«Больш я не магу ісці насуперак свайму сумленню і абараняць бесчалавечны таталітарны рэжым, якім кіруе дыктатар А.Лукашэнка»,* — гэтак напісаў у адкрытым лісце суддзя Ленінскага раёна г.Бабруйска Юры Сушкоў. Гэты ліст суддзя накіраваў у АБСЕ, Вышэйшы суд, прэзідэнту Беларусі і яшчэ ў шэраг праваабарончых арганізацыяў разам з прыкладзенай да ліста заявай аб добраахвотнай адстаўцы. Заява была напісаная 30 студзеня гэтага года. Ці падпісаная яна кіраўніцтвам упраўлення юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама, Юры Сушкоў не выдае, бо з тых часоў ён жыве фактычна ў падполлі, баючыся за сваё жыццё. Днямі суддзя даў прэс-канферэнцыю, якую арганізаваў праваабарончы цэнтр «Вясна-96».

### «Суддзі – частка рэпрэсіўнай сістэмы»

Юры Сушкоў — з пакалення маладых юрыстаў, якія засвоілі юрыдычную навуку ўжо пасля развалу СССР. У 1996 годзе Сушкоў скончыў Харкаўскую юрыдычную акадэмію, а з кастрычніка наступнага года быў прызначаны суддзём Ленінскага суда Бабруйска. Ужо тое, як яго зацвярджалі на гэтую пасаду, супярэчыла ўяўленню маладога юрыста аб незалежнасці судовай улады. Кандыдата ў суддзі правялі па кабінетах чатырох узроўняў: райвыканкам, гарвыканкам, аблвыканкам, міністэрства юстыцыі. *«Гэта як у камуністычныя часы: адбіраюць сваіх, а не тых, хто лепшы прафесіянал. Я ведаю выпадкі, калі па выніках такога «ўзгаднення» кандыдата бракавалі, бо ён проста нікому не спадабаўся»,* — сцвярджае Сушкоў. Навошта патрэбны такі своеасаблівы адбор? Каб, па-першае, адабраць самых паслухмяных і адданых уладзе, па-другое — прадэманстраваць будучаму суддзю, у чыіх руках ягоны лёс. Бо ўжо вельмі хутка на суддзю пачынаюць сыпацца загады, не выканаць якія ён не можа. Не законамі, а часцей гэтымі загадамі, вымушаны кіравацца суддзя ў Беларусі, заяўляе Юры Сушкоў. Самому суддзю таксама даводзілася ісці насуперак сумленню і выносіць супярэчлівыя законы прысуды. Прыклад — вядомая на ўсю Беларусь справа Бабруйскага гідролізнага завода. Менавіта Юры Сушкоў старшынстваваў на гэтым працэсе, у выніку якога былі пакараныя да турэмнага зняволення былыя мытнікі Потарыкін і Дрозд. Між тым суддзя адразу быў упэўнены ў невінаватасці падсудных, толькі змяніць нічога не змог. *«Я меў гутарку з супрацоўнікам рэспубліканскага КДБ, які папярэдзіў мяне, што ў выпадку апраўдачага прысуду мяне чакае жорсткае пакаранне»,* — сцвярджае зараз суддзя Сушкоў і заяўляе аб неабходнасці перагляду гэтай справы.

*(Працяг на стар.3)*

ГАСПАДАРКА

# У Дубко таксама правал

**У мінулую пятніцу ў Гродне адбылася нарада абласной вертыкалі з удзелам старшыняў калгасаў, дырэктараў прадпрыемстваў і г.д. Гэткі «партыйна-гаспадарчы актыў» — паводле старых паняццяў і духу самога мерапрыемства.**

Аказваецца, у студзені заданне па выпуску прадукцыі было «цалкам праваленае», як прызнаўся сам А.Дубко — кіраўнік аблвыканкама. Мяркуйце самі: за студзень у вобласці не выраблена прадукцыі ажно на 1,5 трыльёна рублёў. Трэцяя частка гэтай сумы не атрыманая з прычыны стратаў працоўнага часу — 63 тысячы чалавека-дзён. Амаль трэць прадпрыемстваў вобласці напачатку года зменшыла ўзровень вытворчасці.

Паказчыкі ў сельскай гаспадарцы (самыя лепшыя ў краіне) па прызнанні А.Дубко, таксама вельмі няроўныя. Дзевяць сельгаспрадпрыемстваў па выніках мінулага года сталі стратнымі, большасць іншых мае невысокую рэнтабельнасць. Тлумачыць прычыны, з якіх нават лепшыя — параўнальна з усходнімі абласцямі — калгасы часта ледзьве сточваюць канцы з канцамі, ён не стаў, бо інакш давялося б крытыкаваць урад. Дубко адно нагадаў, што закупныя цэны павышаюцца нясвоечасова і не настолькі, наколькі неабходна.

Самае цяжкае становішча сёння з мясам. У некаторых раёнах для большасці калгасаў вытворчасць ялавічыны з'яўляецца стратнай. Дзяржава патрабуе мяса, а калгасы імкнуцца даць чым паменей. Напрыклад, у першы месяц года Карэліцкі раён здаў мяса напалову менш, чымсьці ў студзені 1998 г., а пастаўкі яго па бартэры павялічыліся ў 60 разоў. Днямі міліцыя затрымала дзве машыны са свіннямі, якія старшыня аднаго калгаса Гродзенскага раёна паслаў на продаж у Мінскую вобласць. Так, там плацяць больш, але адтуль мяса можа трапіць у Маскву, падкрэсліў Дубко і зазначыў, што гэта пагражае турмой.

Некаторыя начальнікі спрабавалі скардзіцца: забарона прадаваць па-за межамі вобласці мяса загубіць калгасы, бо няма на што купляць кармы. Але Дубко ведае сваё, ён атрымаў дырэктыву — з гэтага тыдня кожны дзень пастаўляць у сталіцу 38 тонаў каўбасных вырабаў, 30 — мяса і 3 тоны масла. І ён гэта выканае, нават калі збяднеюць гродзенскія крамы.

А.Дубко пахваліўся, што ў вобласці палепшылася «палітычная работа»: адноўлены «дошкі гонару», «галерэі працоўнай славы» і гэтак далей. Але агітацыйні і прапагандай трэба займацца яшчэ больш, бо прэзідэнт паставіў асноўную для вертыкалі задачу — «не дапусціць зніжэння даверу насельніцтва да ўладаў».

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Няма грошай — царкву зачынілі

Як мы паведамлялі, у вёсцы Аляхновічы Маладзечанскага раёна фірма «Мерра» пабудавала прыгожую царкву, якую спецыялісты ўжо цяпер называюць помнікам драўлянага дойлідства. Фірма ўклала ў будаўніцтва тры з паловай мільярды ўласных сродкаў, каб найхутчэй выканаць просьбу вернікаў, якія не мелі святыні ў сваёй вёсцы. Царкву пабудавалі хутка, але ніхто не хоча за яе разлічвацца.

Гэтая фінансавая праблема ставіць пад пагрозу выкананне ўсіх аб'ектаў «Мерры», якая рэстаўруе тры касцёлы, 6 цэркваў і філіял музея Максіма Багдановіча ў Ракуцёўшчыне. Заказчыкі «Мерры» — арганізацыі міністэрства культуры, дзяржкамітэт па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў, а таксама аб'яднанне літаратурных музеяў.



Праваслаўная царква абяцала знайсці грошы яшчэ восенню мінулага года, аднак фірма іх не атрымала, і 128 будаўнікоў засталіся без зарплаты. Мітрапаліт Філарэт звяртаўся ў адміністрацыю прэзідэнта, да самога Ціцянкова, дырэктар фірмы 77-гадовы Міхаіл Новікаў прасіў дапамогі ў прэзідэнта Лукашэнкі, у віцэ-прэм'ера Замяталіна, пісаў у Нацыянальны банк. Нашыя «праваслаўныя атэісты» не далі ні капейкі.

Дырэктару «Мерры» параілі звярнуцца на самае буйное і багатае прадпрыемства ў Аляхновічах — птушкафабрыку. Аднак кіраўнік птушкафабрыкі Аляксандр Клімашэўскі заявіў, што ягонае прадпрыемства мае шмат даўгоў, таму на царкву грошай у яго няма і наогул, маўляў, навошта яму царква — «індыкоў вадзіць маліцца?».

Месяц таму Міхаіл Новікаў у адчаі аб'явіў, што гатовы прадаць царкву ў Аляхновічах, каб пакрыць выдаткі і завяршыць будаўніцтва іншых святыняў. Аднак ніхто не захацеў купіць будынак. Не знайшлося ні спонсараў, ні апекуноў ва ўсёй нашай праваслаўнай краіне, кіраўніцтва якой любіць паказаць сябе ў царкве пад час Каляды ці Вялікадня.

Высветліць пазіцыю кіраўніцтва праваслаўнай царквы нам не ўдалося, бо сакратар мінскай епархіі айцец Іаан адмовіўся размаўляць на гэтую тэму. Затое мясцовы святар айцец Уладзімір заявіў, што ў драўлянай царкве яму холадна і ён хоча пабудаваць новую цагляную. Праўда, мясцовае кіраўніцтва без энтузіязму ўспрымае прапанову айца Уладзіміра. Маўляў, яшчэ не паспелі да адной царквы падвесці дарогу і электрычнасць, а ўжо патрабуюць новы зямельны ўчастак. Улады лічаць, што было б лепей збудаваць храм у іншай вёсцы, дзе ўвогуле няма царквы.



Дарэчы, у раёне шмат цэркваў, у якіх адсутнічае ацяпленне, аднак гэта не перашкаджае богаслужэнням. Паства айца Уладзіміра раскалолася на дзве часткі, некаторых непакорных святар нават адлучыў ад царквы. Уваход у новую царкву прыхаджане забілі дошкамі і не пусцілі туды айца Уладзіміра. Вернікі накіравалі калектыўнае пасланне мітрапаліту Філарэту і чакаюць, як ён адрэагуе на гэты крызіс. Тым часам дырэктар фірмы «Мерра» спадзяецца, што знойдуцца спонсары, якія дапамогуць царкве. На ўсякі выпадак нагадваем разліковы рахунак № 3012202560012 у Маладзечанскім аддзеле БББ, код 738.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

ЮСТЫЦЫЯ

# Суддзя абвінавачвае судовую сістэму

(Пачатак на стар.1)

Паводле ягоных словаў, ціск на суддзяў аказвае не толькі КДБ. Вельмі часта дастаткова пагрозаў з боку судовага кіраўніцтва ці служачых з пракуратуры ды міліцыі, якія зацікаўленыя ў абвінаваўчых прысудах па справах, якія яны расследавалі. Канешне, ціск і пагрозы ўздзейнічаюць не заўсёды. За год працы суддзёй Сушкоў вынес тры апраўдаўчых прысуды, што нямала для пачынаючага суддзі. Аднак кіраўніцтва адрэагавала на гэта своеасабліва. Спачатку яму казалі: «Ты канчай нам пагаршаць паказчыкі». Потым давялося чуць сапраўдныя пагрозы: «А калі тваё рукі пад нож пакладуць?»

## Прызнанне ў процівагазе

Як на вялікую небяспеку для грамадства ўказвае суддзя Сушкоў на зрошчванне суддзяў з рэпрэсіўнай сістэмай. *«У іх усе адзін адного ведаюць, разам п'юць, аказваюць адзін аднаму ўсялякія паслугі, што супярэчаць закону. У выніку такой барацьбы са злачыннасцю злодзеяў у краіне ніколі не паменшыцца»,* — упэўнены Юры Сушкоў. Сам ён ні адзін раз атрымоўваў ад следчых «рэкамендацыі», як абысціся з падсуднымі. Аднаго знаёмага следчы «раіў» прызнаць невінаватым, хаця гэты знаёмы жорстка збіваў сваю жонку і дзяцей. Але часцей следчыя дамагаюцца прызнаць людзей вінаватымі ў злачынствах, якія ім прыпісваюць. *«Досыць выпадкаў, калі для асуджэння чалавека хапае ягонага прызнання. Але толькі тыя, хто працуе ў рэпрэсіўнай сістэме, ведаюць, як гэтыя прызнанні здабываюцца»,* — сцвярджае суддзя Сушкоў і дзеліцца той інфармацыяй, якой ён валодае. Паводле ягоных словаў, следчыя Бабруйска выкарыстоўваюць часцей за ўсё «дзедаўскія» метады: збіваюць чалавека, прычапіўшы яго да кратаў наручнікамі ці мораць голадам і начнымі допытамі. Але ўжываюцца і больш сучасныя метады: напрыклад, адзяюць на галаву процівагаз і перацiскаюць дыхальную трубку. Здараюцца і выпадкі сярэдневяковага варварства. *«Вырываюць валасы на палавых органах, перацiскаюць ногі ды рукі»,* — кажа суддзя. Ён упэўнены, што начальства аб гэтых процізаконных дзеяннях сваіх падначаленых ведае, але не спыняе іх, бо зацікаўленае ў паказчыках раскрыцця злачынстваў.

## Рыба гніе з галавы

Корань бедаў судовай сістэмы ў Беларусі бабруйскі суддзя бачыць у залежнасці судовай улады ад выканаўчых структураў. Канешне, ёсць яшчэ нізкія заробкі, праблемы з жыллём, недастатковы прафесіяналізм. Традыцыі былых камуністычных часоў, згодна з якімі «без віны ў нас не арыштоўваюць». Але ад пазбаўлення ад гэтых бедаў не зацікаўленая сама ўлада, якая і заявіла, што будзе клапаціцца аб судах. На самой справе ўвесь яе клопат толькі пра тое, каб мацней іх падпарадкаваць, лічыць Сушкоў, які, дарэчы, быў дэлегатам з'езда суддзяў у мінулым годзе. З гэтага форуму суддзя вярнуўся расчараваным. *«Я зразумеў, што спадзявацца на рэформы судовай сістэмы з боку ўлады не даводзіцца. Прынцып незалежнасці і выбарнасці суддзяў забыты, ідзя прысяжных судоў пахаваная, а законы піша адна асоба, якой усе павінны падпарадкоўвацца. Навошта такой сістэме ўвогуле суддзі, калі вынікі судоў можна прагназаваць? Будзе лягчэй прызнаць, што ў нас замест суддзяў прысуд выносяць тыя міліцыянты, якія і арыштоўваюць людзей»,* — абурэецца Юры Сушкоў.

Завяршаючы сваю заяву журналістам, ён выказаў упэўненасць, што многія людзі падтрымаюць яго ў барацьбе за Беларусь вольную, без таталітарызму.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

***Хваля пратэстаў супраць арышту спецслужбамі Турцыі лідэра Рабочай партыі Курдыстана Абдулы Аджалана дакацілася і да Беларусі. У пятніцу шаснаццаць актывістаў беларускага таварыства «Курдыстан» правялі несанкцыяваны пікет каля будынка прадстаўніцтва ААН у Мінску.***

# Курды Беларусі абяцаюць мірныя пратэсты

Пікетчыкі патрабавалі сустрэчы з супрацоўнікамі аанаўскай місіі, каб перадаць ім свой зварот з просьбай дапамагчы хутчэйшаму вызваленню Аджалана. Як паведаміў нам арганізатар пікета старшыня таварыства «Курдыстан» Ганат Чарказян, ягоныя суайчыннікі зусім не жадалі парушаць беларускае заканадаўства і звярталіся да гарадскіх уладаў па дазвол. Аднак у гарвыканкаме згаджаліся дазволіць пікетаванне толькі праз 15 дзён. Курдскія актывісты не сталі чакаць, бо палічылі, што турэцкія ўлады могуць закатаваць Абдулу Аджалана значна раней.

Таварыства «Курдыстан» дзейнічае ў Беларусі з 1995 г. і афіцыйна зарэгістраванае ў міністэрстве юстыцыі. А ўсяго ў Беларусі, па словах Г.Чарказяна, жыве больш за сотню курдаў — адны пераехалі да нас з былых савецкіх рэспублікаў, іншыя, ураджэнцы Турцыі, Сірыі, Лівана і іншых блізкаўсходніх краінаў, вучыліся ў нашых ВНУ, а потым засталіся ў Беларусі. Сярод іх ёсць і беларуския грамадзяне.

Акцыя атрымалася вельмі гучнай. Курды разгарнулі нацыянальныя сцягі, транспаранты і партрэты Аджалана і пачалі выкрыкваць: «Турцыя — фашысты», «Свабоду Аджалану!». Міліцыя спрабавала спыніць недазволенае пікетаванне, але безвынікова. Ганат Чарказян заявіў ахоўнікам парадку, што акцыя скончыцца толькі пасля сустрэчы з прадстаўнікамі ААН. Супрацоўнікі місіі прынялі курдскую дэлегацыю і паабяцалі накіраваць іхні зварот у штаб-кватэру ААН. У адрозненне ад іншых гарадоў свету, у Мінску курды паводзілі сябе цывілізавана, без захопу закладнікаў і самаспаленняў, тым не менш пасля заканчэння пікета міліцыя затрымала ўсіх яго ўдзельнікаў.

Па словах аднаго з сакратароў амбасады Турцыі ў Мінску, туркі ў Беларусі не вельмі напалоханыя пагрозамі тэрарыстаў. «Такія пагрозы ў наш адрас гучаць штодня, але мы спадзяемся, што беларускія спецслужбы кантралююць сітуацыю і не дапусцяць актаў тэрору», — упэўнены супрацоўнік амбасады.

Кіраўніцтва Курдскай рабочай партыі праз курдскі спадарожнікавы тэлеканал, які вяшчае з Бельгіі, заклікала сваіх суайчыннікаў да гвалтоўных дзеянняў супраць афіцыйных турэцкіх установаў. Курды, якія жывуць у Беларусі, таксама працягнуць акцыі пратэсту, але, па словах актывістаў таварыства «Курдыстан», яны будуць мець выключна мірны характар.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Яшчэ адзін палітэмігрант

**Палітычнае прыстанішча ў Чэхіі прадастаўлена былому актывісту віцебскай рады БНФ «Выбар» Юрыю Марозу.**

Юры Мароз паведаміў, што працягвае сваю праваабарончую дзейнасць. У дні пікетавання пад вокнамі амбасадаў Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі ў Празе ім сабрана каля 200 подпісаў за вызваленне Уладзіміра Плешчанкі, які падазраецца ў дэмантажы помніка Сувораву. Лісты з подпісамі пад адпаведнай заявай спадар Мароз адправіў у Камітэт па правах чалавека ААН.

*БелаПАН*

## «НАША НІВА» НА ГЭТЫМ ТЫДНІ

Тэмаю свежага нумару «Нашай Нівы» сталі «беларускія філіі і фобіі» — пра гэта гавораць беларускія інтэлектуалы. У рубрыцы «Шуфляда» — падборкі пра віну беларусаў за генацыд яўрэяў у Другую сусветную вайну і пра забойства Кубэ. Друкуецца апошняе інтэрв'ю Марыі Осіпавай. Нумар увогуле багаты на інтэрв'ю: Сямён Шарэцкі разважае пра прэзыдэнцкія выбары, Карлас Шэрман — пра вяртаньне Быкава й пісьменьніцкую самоту, Вячаслаў Чарнавіл — пра памылкі правых сілаў у постсавецкіх краінах. Эсэ Аляксея Макоўца прысьвечана сутнасці ўлады ў Беларусі. На літаратурных старонках — новае апавяданьне Адама Глёбуса «Пачварнік» і, як заўсёды, рэцэнзіі на новыя кнігі.

ЮБІЛЕІ

# ЛітБел-80 як люстэрка расійскай геапалітыкі

**Не тое свята**

Калі б у нашым урадзе зважалі на родную гісторыю, дык святкаванне 80-годдзя ўтварэння першай БССР праходзіла б не 1 студзеня, а 2 лютага. Бо ў студзені 1919 года на Беларусі дзейнічаў Часовы Рэвалюцыйны Урад, прызначаны партыйнай канферэнцыяй, і бальшавіцкая ўлада мела такую ж легітымнасць, як, прыкладам, Народны Урад, абраны чытачамі якой-небудзь газеты. Не надала яму большых правоў і Пастанова Усесаюзнага (маскоўскага) ЦВК аб прызнанні незалежнасці Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Пастанова мела прапагандысцкі характар, бо з'явілася напярэдадні падрыхтаванага бальшавікамі мерапрыемства ў Мінску.

На гэтым мерапрыемстве — Усебеларускім з'ездзе Саветаў, якое праходзіла 2—3 лютага 1919 г. (230 дэлегатаў: 217 — бальшавікі, 17 — іхныя прыхільнікі) — было ўхвалена ўтварэнне БССР, зацверджаны Канстытуцыя і герб, старшыня Часовага Урада нацыянал-камуніст Зм. Жылуновіч быў заменены надзейным інтэрнацыяналістам армянінам Мясніканам. З'езд, так мовіць, асвячаў прысутнасцю старшыня Усерасійскага ЦВК Якаў Свярдлоў. Па яго парадзе з'езд звярнуўся да ўсіх народаў прызнаць самастойнасць Беларусі і займець з ёй дыпламатычныя зносіны. На палітычнай карце, на заходніх абсягах былой Расійскай імперыі, з'явілася «самастойная Беларусь», прычым у межах этнічнага рассялення беларусаў.

У самастойнай якасці гэтая савецкая Беларусь праіснавала гадзіну, патрэбную на абедзенны перапынак. Пасля абеда ўсе 230 дэлегатаў па неаспрэчнай прапанове маскоўскага госця дружна прынялі Пастанову пра аб'яднанне з Літвой у адзіную Савецкую рэспубліку.


Вильня — сталіца ЛітБела

**Геапалітыка-1919: анексія**

Напярэдадні першага з'езда Саветаў Літвы (17—21 лютага), які мусіў прыняць аўтэнтычную пастанову, Цэнтральны Камітэт Расійскай Кампартыі самастойна вырашыў аддзяліць ад Беларусі тры губерні — Віцебскую, Смаленскую і Магілёўскую. Болей за гэта, ЦК РКП(б) прапанаваў ураду Беларусі звярнуцца да РСФСР з просьбай распачаць перамовы аб уваходжанні ў Федэрацыю.

Анексія Расіяй большай часткі беларускіх зямель абурыла нават адданых беларускіх камуністаў, і ў Маскву вырушыла дэлегацыя, каб аспрэчыць захопніцкае рашэнне. Беларускіх таварышаў прыняў Уладзімір Ленін і даходліва растлумачыў, што анексія палягае на двух архіважных для рэвалюцыі меркаваннях:

1) утварэнне дужых нацыянальных рэспублік можа блага паўплываць на самасвядомасць пралетарыяту і дэзарыентуе працоўныя масы з ідэалаў сусветнай рэвалюцыі на абмежаваныя нацыянальныя інтарэсы;

2) таму «незалежныя» рэспублікі накшталт БССР ці ЛССР неабходныя ў бягучы палітычны момант толькі таму, што мяжуюць з іншымі краінамі, у тым ліку і буржуазнымі. А паколькі Віцебская, Смаленская, Магілёўская губерні з іншымі краінамі не мяжуюць (Расія, зразумела, чужой для «пралетарыяту ўсіх краінаў» быць не можа), дык яны і не патрэбныя той Беларусі, якая створана ў якасці буфера для абароны Савецкай улады на межах Расіі.

Беларускія пасланцы ўцямілі мудрасць правадыра і супакоеныя паехалі дадому. (На працягу наступных 7 гадоў адабраныя землі ўваходзілі ў склад Расійскай Федэрацыі, толькі частка іх вярнулася да Беларусі пасля так званых «узбуйненняў».)

**Выкананне**

У гэты ж час неабходнасць аб'яднання з Беларуссю ўхвалілі на сваім з'ездзе Саветаў літоўскія бальшавікі. Праз 10 дзён, 27 лютага ЦВК Літвы і ЦВК Беларусі зліліся ў брацкіх абдымках і ўтварылі Рабоча-Сялянскі ўрад Літвы і Беларусі. Новая краіна атрымала назву — Савецкая Сацыялістычная Літоўска-Беларуская Рэспубліка (ЛітБел). Не ў алфавітным парадку, а з Літвой наперадзе, бо беларусы былі згодныя перацярпець, а літоўцы маглі б заўпарціцца.

БССР, пражыўшы 25 дзён, сканала, а з'явіўся ЛітБел, які складаўся з Мінскай, Віленскай, Гродзенскай і часткі Ковенскай губерняў. Агульнае войска дзяржавы налічвала 100 тысяч штыкоў і шабель, з якіх літоўскіх было 5 тысяч, беларускіх — 95. Такая прапорцыя гарантавала захаванне Савецкай улады на Літве насуперак «прошукам мясцовых нацыяналістаў».

**Магільшчыкі ЛітБела**

Пабачыўшы на новай палітычнай карце, які ладны абшар Беларусі прагнулына бальшавіцкая Расія, польскія сацыялісты вырашылі задаволіць сілай свае прэтэнзіі на Гродзенскую, Мінскую і Віленскую губерні. 19 лютага палякі захапілі Брэст, пачалася ўзброеная інтэрвенцыя. 28 красавіка ўрад ЛітБела пераехаў з Вільні ў Мінск. Скарыстаўшы сітуацыю, Усесаюзны ЦВК выдаў 1 чэрвеня Дэкрэт, які аб'ядноўваў савецкія Расію, Украіну, Латвію, Літву, Беларусь у адно цэлае для барацьбы з «сусветным імперыялізмам». 16 ліпеня СНК ЛітБела спыніў свае функцыі («усе пайшлі на фронт»). 8 жніўня польскія легіёны занялі Мінск і ўтрымоўвалі яго год. Беларуская частка ЛітБела была вызваленая летам наступнага года, аднак Савецкая Сацыялістычная Літоўска-Беларуская Рэспубліка не аднавілася. 12 ліпеня Расія, не пытаючыся згоды беларускіх бальшавікоў, падпісала з Літвой мірны дагавор, па якім да буржуазнай Літвы адыходзілі Вільня, Гродна, Ліда і прылеглыя да іх паветы. Абкарнанай з усіх бакоў Беларусі паралі аднавіць незалежнае існаванне, што і было зроблена 31 ліпеня прадстаўнікамі камуністычных, бундаўскіх і прафсаюзных арганізацыяў.

**Геапалітыка-1999: інтэграцыя**

Сённяшні лад у Рэспубліцы Беларусі такі, што літоўцам толькі ў дурным сне могуць прысніцца наступствы палітычнага саюза з 10-мільённым рускамоўным насельніцтвам Беларусі, як было ў ЛітБелу, да таго ж павязанага ў «саюз славянскіх дзяржаваў».

Геапалітычныя патрэбы Расіі зараз таксама іншыя, чым былі пры стварэнні ЛітБела. Па-прарасійску настроеная Беларусь рассякае магчымы Чарнаморска-Балтыйскі калідор. Калі б эканамічныя стасункі Украіны, Літвы і Беларусі наладзіліся, а тым болей пачалі б афармляцца ў пэўны саюз, Расія займела б паласу перашкодаў на сваіх магістральных шляхах (і газаправодах) на Захад. Саюзная Расіі Беларусь, разбураючы ідэю Чарнаморска-Балтыйскага калідора, пазбаўляе Расію канкурэнтаў у гэтай паласе. Ну, і менш значнае: выхад да заходняй мяжы, наблізкім да Калінінградскай вобласці, размяшчэнне вайсковых частак.

Таму, відаць, наш урад, узгадаўшы пра 80-годдзе КПБ, свядома забыўся выгукнуць «З 80-годдзем ЛітБела!», каб не звярнуць увагі насельніцтва на страты, якія пацярпела Беларусь тэрытарыяльна ў той час і якія цярпіць сёння ад прарасійскай арыентацыі.

**Міхал МАТУШ**

ПАЛІТЫКА

# Гадючьи яйца

Быть фашистом в нашей стране – дело неблагодарное. Добровольно у нас ни один человек в здравом уме не назовется фашистом. Потому что очень неуютно на белорусских улицах ублюдкам со свастикой на рукаве. Неуютно и страшно. В одиночку они не решаются демонстрировать своих «пауков». Ведь можно попасть под горячую руку какому-нибудь работяге, отстоявшему смену у станка, который не станет расспрашивать питомца российского гитлерюгенда о национальности, об идее Великой России и прочих пустяках, а просто прибьет как придурка со словами: «Гитлер капут!».

Но вот что интересно: почвы для появления этих фигур у нас в стране нет, а сами фигуры плодятся. Если фашистов лелеют, значит это кому-нибудь нужно. Кому? На каком навозе они прорастают? Несложный анализ позволяет быстро найти ответ. **Российские фашисты на белорусских улицах нужны пророссийской пятой колонне внутри страны, в которую входят сегодня все тайные и явные ликвидаторы белорусского суверенитета во главе с президентом Лукашенко.** Нужны для запугивания демократических, патриотических сил, для провокаций и разжигания национальной вражды. Прорастают они на шовинистических идеях «русского порядка». А порядок в России – стране всеобщего перманентного разгула – им видится в образе узколобого малого с крепкими кулаками. Главная идея коричневого мировоззрения РНЕ – насилие, а методы разрешения споров – потасовки. Сверхзадача примитивна: сделать так, чтобы их боялись.

Основная ударная сила коричневых в Беларуси – стаи малолеток, завербованных в заштатных ПТУ и подворотнях. Но опасность все же не в них – малограмотных, обманутых и озлобленных подростках. Опасность в подстрекателях, в созерцателях, в идеологах и прочих подлецах, коих во множестве наплодилось в наших силовых структурах и шовинистических пророссийских организациях за время президентства А. Лукашенко.

Собственно говоря, официальным поощрением их деятельности в Беларуси стало печально известное интервью А.Лукашенко 15 ноября 1995 года немецкой газете «Хандельсблат», в котором он одобрил методы Гитлера по созданию полицейского государства. Дальше – больше. Публичное унижение президентом национального достоинства белорусов и политика предательства интересов собственной страны возродила к жизни в спокойной и толерантной стране маргинальные силы бывшей Российской империи. Это и перенесенная на белорусскую почву идея российской националистической партии ЛДПР, и некий «Славянский собор», называемый в народе «антиеврейским забором», и рой всяческих «союзов». Это и псевдобелорусская молодежная организация БПСМ, состоящая из «патриотов» соседней страны. Они стали самой твердой опорой нынешней власти. Но опорой малочисленной и идеологически белорусам чуждой. Поэтому последним аргументом президента в борьбе за удержание власти, его последней палочкой-выручалочкой становится грубая сила, замешанная на страхе с помесью славянофильских идей. То есть – русский фашизм.

Даже после того, как фашисты перешли от расклеивания листовок по всему городу к откровенным демонстрациям своего присутствия и нападениям на граждан Беларуси, президент Лукашенко не перестал закрывать глаза на их существование и очень нервничает, когда в прессе появляются разоблачительные материалы о российских фашистах. Свидетельством тому его недавнее чрезвычайно эмоциональное выступление по телевидению: «Видите-ли... баркашовцы, фашисты на улицах появились?...Я уточняю: какие фашисты в Беларуси? Какие баркашовцы? У нас же не зарегистрирована эта организация. Ее нет!».

Вот почему, оказывается, наши милиционеры не трогают фашистов во время их публичных выходок! Их нет, потому что они не зарегистрированы. Вот зарегистрируются, тогда их «попросят по-хорошему не баловаться»! А пока пускай пугают честных граждан и угрожают разборками с инородцами. Пускай отравляют общественную атмосферу. Обыкновенного президента пока не беспокоят обыкновенные фашисты. Он так и не нашел в себе силы заявить с телеэкрана о решительном неприятии российского нацизма, прикрыв нападение этих подонков на активистов правозащитной гражданской инициативы Хартия'97 традиционным словоблудием. Так что всерьез бороться с РНЕ в Беларуси официальные органы скорее всего не станут.



Наличие в стране беснующихся фашистов дает Лукашенко уникальную пропагандистскую возможность. Можно отвлечь внимание граждан от пустых прилавков, пугая беспорядками и войной. Он давно уже пытается навесить всем своим политическим оппонентам ярлыки экстремистов, врагов народа, националистов. И в этом опирается на карманные средства массовой информации. Откровенным провокатором, например, выступил г-н Зимовский, одиозный служитель президентского телевидения, который в своих передачах имел наглость монтировать кадры с Конгресса демократических сил в одном смысловом ряду с кадрами уличных беспорядков. «Вчерашним» очень хочется сейчас смешать в одну кучу фашиствующих юнцов-дегенератов с лучшими представителями демократической оппозиции. Но российский фашизм упорно почему-то ассоциируется у людей только с первым всенародным. Слишком много общего между ними. И стержень один – грубая сила со страхом.

Чем фашисты заканчивают – известно всем. Чтобы остановить их сегодня достаточно исполнять закон и не допускать их к средствам массовой информации. Единственной организованной силой, которая дала реальный отпор подонкам, стала демократическая власть оппозиционных режиму партий. Именно она выступила с публичными заявлениями об опасности русского фашизма. Именно она приступила к формированию антифашистских дружин. **Запись в антифашистские дружины будет проводиться во время антифашистской демонстрации 27 февраля, которая пойдет от площади Якуба Коласа до парка Янки Купалы.** По-другому быть не может, потому как наше общество сегодня активно поляризуется. Подавляющее большинство за то, чтобы растоптать все коричневые гадючьи яйца, вне зависимости от того, зарегистрированы они в министерстве юстиции или нет.

**Александр ДУБРАВИН**

РОК-КУЛЬТУРА

# Блюз назаўжды

Сёння мае суразмоўцы гурт *Mojo Blues* — Аляксей Казлоўскі (вакал, бас-гітара), Андрэй Філатаў (бубны), Ільля Шэўчык (гітара), музыкі, чые імёны ўжо запісаныя ў гісторыю беларускай рок-музыкі. У самой назве гурта ёсць слова блюз, таму няма сэнсу казаць, у якім стылі граюць музыканты. А слова *Mojo* — гэта слэнгавае панцце, якое азначае нешта брутальнае, да апошняга ўздыху. Такім чынам *Mojo Blues* — гэта блюз назаўжды, блюз і толькі блюз.



***М.Н.** На сёлетняй рок-каранацыі вы прэтэндавалі на тытул рок-каралёў, але вялікую карону ўсё ж такі аддалі «Нейродюбелю». Вам не крыўдна?*

— Не, мы лічым, што «Дюбеля» атрымалі яе справядліва. Яны вельмі стараліся, іх часта паказвала тэлебачанне, у іх былі ўдалыя вялікія канцэрты. Так што ўсё нармальна, альтэрнатывы ў іх рэальна не было.

***М.Н.** Побач са мною сядзяць людзі, якіх з поўным правам можна назваць жывымі легендамі беларускага рокe. Як вы думаеце, з якога часу, з якой падзеі трэба адлічваць гісторыю рок-н-рола на Беларусі?*

— Напэўна, з канца 60-х гадоў, калі ў Мінскім радыётэхнічным інстытуце адбыўся першы рок-фестываль. Увогуле РТІ можна назваць «школай гітарызму», адтуль выйшла шмат сапраўды таленавітых гітарыстаў — гэта і Аляксандр Растопчын, і Андрэй Казлоўскі, і Вячаслаў Корань. Ну і другое паколенне — група «Сузор'е», у якой мы ігралі.

***М.Н.** У 1977 годзе адкрылася першае на Беларусі маладзёжнае кафэ «Сузор'е», і Андрэй Казлоўскі, Валянцін Пучынскі і Андрэй Філатаў (сённяшні бубнач «М») арганізавалі аднайменную групу. Пазней да іх далучыўся Аляксей Казлоўскі (бас-гітарыст і вакаліст «М»). Праца ў кафэ «Сузор'е» працягвалася да 1980 года, калі «Сузор'е» перайшло пад дах філармоніі. У гэты час яны пачалі ездзіць з-гастролямі па ўсім Савецкім Саюзе. Аднак, не ўсё было так гладка — у пэўны час групу «знялі» прама з гастроляў і выклікалі ў КДБ: маўляў, вашыя канцэрты кепска ўплываюць на савецкую моладзь. Вы адчувалі сябе героямі?*

— Так атрымалася, што мы ўвесь час знаходзіліся паміж двума агнямі — для моладзі мы былі «саўкамі», для начальства — празаходнімі.

***М.Н.** Наступным вашым крокам быў гурт «Зіндан».*

— Прыемна, што вы пра гэта ўзгадалі. У гэтым праекце разам з намі бралі ўдзел Серж Ведмедзь (гітара) і Нелі Дзянісава (вакал). Але праз паўтара года сумеснай працы ва ўсіх удзельнікаў гурта выкрышталізаваліся свае інтарэсы, «Зіндан» вычарпаў сябе.

***М.Н.** Варта яшчэ зазначыць, што гітарыстам «М» стаў таксама музыкант з вялікім стажам Ілля Шэўчык. Традыцыйна-правакацыйнае пытанне: Ілля, чаму ты сышоў з «Крамы»?*

— У гурце «Крама» я іграў шэсць з паловай гадоў, з самага пачатку і да канца 97 года. Там я захапіўся блюзавай музыкай і паступова спрабаваў яе граць. Спачатку *Mojo Blues* быў толькі часовым паралельным праектам. Я не збіраўся пакідаць «Краму», але блюз стаў вельмі сур'ёзным заняткам. Мы сабраліся летам 1997 года, а праз паўгода выпусцілі першы *СД Love Across the Ocean*. І зараз рыхтуем новы — на рок-каранацыі нас узнагародзілі прызам у намінацыі «Блюз назаўжды» — бясплатным запісам на студыі «Скатрэкардз» — і грэх было б гэтым не скарыстацца.

**Магдалена Н.**

ЗДАРОЎЕ

## Как уберечься от камней в почках

**Тем, кто страдает от почечных камней, доктора рекомендуют пить побольше жидкостей. Но каких? На этот вопрос отвечает статистическое исследование, проведенное в США.**

Сотрудники Женской больницы в Бостоне и Гарвардской медицинской школы с 1986 по 1994 год следили за 80 тысячами женщин разного возраста, изучали, какие напитки они предпочитают (всего изучено влияние 17 разных напитков) и как часто у них встречается почечно-каменная болезнь. Всего за эти годы в обследованном контингенте отмечено 719 случаев камней в почках.

Оказалось, что регулярное питье чая снижает риск образования камней на 8 процентов, кофе (с кофеином или без) — на 9, а умеренное потребление сухого вина — не менее чем на 20 процентов. С другой стороны, ежедневный прием стакана грейпфрутового сока повышает риск образования камней в почках на 44 процента. Кстати, этот последний эффект уже был обнаружен раньше в аналогичном исследовании на мужчинах.

## Мойте овощи перекисью водорода

**Американская исследовательница Элизабет Эренфельд решила проверить, насколько эффективен настоятельный совет всех гигиенистов мыть овощи перед едой.**

Она проверила на зараженность бактериями 39 проб овощей и обнаружила, что в среднем на грамм овощей приходилось более 10 миллионов бактерий, попавших сюда, видимо, из органических удобрений и с грязных рук сборщиков и упаковщиков. Трехкратная промывка чистой водой снизила зараженность в сто раз, но и после этого на овощах осталось достаточно болезнетворных организмов, чтобы вызвать расстройство желудка.

Чем же в таком случае надо мыть овощи перед едой? Как показали эксперименты, лучше всего из общедоступных и неядовитых для человека средств действует смесь уксуса с перекисью водорода



Нямецкія заканадаўцы моды ўслед за французскімі пачалі выкарыстоўваць у новых мадэлях адзення руканец, а таксама элементы манаскай вопраткі. Гэтая калекцыя бялізны *Viva Maria* выраблена ў Патсдаме. Прадстаўнікі каталіцкай царквы абураныя новай модай і сцвярджаюць, што ніхто не мае права эксплуатаваць рэлігію, інача з каталіцкай царквы можна зрабіць пасмешышча. Па словах аднаго з прадстаўнікоў французскай канферэнцыі епіскапаў, «гэтая мода робіць уражанне духоўнай няспеласці».

*Паводле Der Spiegel*

# Даты і лёсы

## *23 лютага*

**1619.** Мястэчка Друя атрымала Магдэбургскае права. 24.02.1579 такія ж прывілеі атрымаў Мір.

**1874.** Англічанін Уолтэр Уінгфілд запатэнтаваў гульню тэніс (назва паходзіць ад фр. *Tenez* — «трымайце!»).

**1903.** Нарадзіўся чэшскі журналіст Юліус Фучык, аўтар напісанай у нацысцкай вязніцы кнігі «Рэпартаж з пятлёй на шыі». Закатаваны ў 1943 г. У **1904 г.** нарадзіўся таленавіты беларускі мастак Раман Семашкевіч, закатаваны ў НКУС у 1937 г. Амаль усе ягоныя творы былі сканфіскаваныя і, верагодна, знішчаныя.

**1919.** Беніта Мусаліні заснаваў у Італіі Фашысцкую партыю.

**1929.** У Таліне нарадзіўся патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі з 1990 г. Алексій II (Аляксей Рыдыгер), кавалер ордэнаў Працоўнага Чырвонага Сцяга і Дружбы народаў.

**1937.** Пачаўся сумна вядомы лютаўска-сакавіцкі пленум ЦК ВКП(б), які даў старт найбольш жахліваму перыяду рэпрэсіяў. Сталін абвесціў, што чым больш краіна набліжаецца да пабудовы сацыялізму — тым больш у ёй павінна быць «ворагаў народа».

**1944.** Пачалася тыднёвая аперацыя войскамі НКУС па высылцы чачэнцаў (каля 400 тыс.) і інгушоў (каля 100 тыс.) з Каўказа ў Казахстан.

**1981.** У Іспаніі праваліўся прафашысцкі путч. Нацыянальныя гвардзейцы на чале з падпалкоўнікам Антоніо Тэхерам захапілі парламент, але пасля палкай прамовы караля Карласа па тэлевізіі ў абарону дэмакратыі здаліся. У гэты ж дзень у **1994 г.** Дзяржаўная дума Расіі амніставала кіраўнікоў путчу ГКЧП.

## *24 лютага*

**Раней славяне адзначалі свята паганскага бога Вялеса, захавальніка хатняй жывёлы. Цяпер дзень св. Уласа.**

**1919.** ЦВК БССР прыняў пастанову пра адкрыццё ў Мінску дзяржаўнага ўніверсітэта.

**1920.** У брытанскім парламенце ўпершыню выступіла жанчына — лэдзі Нэнсі Астар. І што яна сказала калегам-мужчынам? Заклікала ўзмацніць дзяржаўны кантроль над продажам алкагольных напояў.

**1989.** Падчас палёту амерыканскага лайнера «Боінг-747» над Ціхім акіянам адбылася аварыя, якая ледзь не знішчыла самалёт: нечакана расчыніўся грузавы люк, струмень паветра прабіў падлогу пасажырскага салона і выкінуў у мора 9 чалавек, што сядзелі найбліжэй да дзіркі. Пілоты даведаліся пра гэта толькі тады, калі пасадзілі лайнер у Ганалулу.

**1991.** Хаўруснікі па антыіракскай кааліцыі пачалі вызваленне тэрыторыі Кувейта, акупаванага Садамам Хусейнам. У дэсантнай аперацыі былі задзейнічаныя 550 верталётаў.

## *25 лютага*

**1569.** Першадрукары Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец пачалі сваю дзейнасць у Беларусі — у маёнтку праваслаўнага магната Рыгора Хадкевіча.

**1836.** Сэмюэл Кольт атрымаў першы патэнт на шасцізарадны рэвальвер 45-га калібра.

**1899.** Памёр Пауль фон Ройтэр, заснавальнік міжнароднага агенцтва навінаў *Reuters*.

**1918.** Германскія войскі ўступілі ў Мінск. У той жа дзень акупацыйныя ўлады загадалі Народнаму Сакратарыяту Беларусі вызваліць былую рэзідэнцыю губернатара і зняць з яе беларускі сцяг.

**1922.** Нарадзіўся шатландскі селекцыянер бульбы Дональд Маклін, які сабраў буйнейшую ў свеце калекцыю бульбы: 367 гатункаў з усяго свету.

**1925.** Пачалося паўстанне курдаў супраць Турцыі.

**1956.** Мікіта Хрушчоў выступіў на XX з'ездзе КПСС са спавешчаннем «Пра культ асобы і ягоныя наступствы», дзе параўнаў Сталіна з богам-самазванцам, у ахвяру якому былі прынесеныя лепшыя партыйныя і ваенныя кадры. Па словах Хрушчова, украінскі народ пазбег высылкі ў Сібір толькі таму, што быў надта шматлікі.

**1964.** Абсалютным чэмпіёнам свету па боксе стаў Мухамед Алі, які перамог у Маямі накаўтам Сані Лістана.

**1969.** «Бітлз» пачалі запісваць свой апошні альбом *Abbey Road*.

**1977.** Падчас пажару ў маскоўскай гасцініцы «Россия» загінулі 42 чалавекі, у тым ліку 13 пажарных.

**1981.** Адбылася рэкордна грубая ў гісторыі хакею гульня паміж камандамі *Boston Druins* і *Minnesota North Stars*. Суддзі 84 разы пакаралі хакеістаў (392 хвіліны штрафнога часу).

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 513 Нумар падпісаны ў друк 22/02/99 (15:00) Наклад — 17.310
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі